Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
26 красавіка 2001 г.
№ 17 (513)
Кошт 90 рублёў

## «Новая газета Смаргоні» супраць падатковай

**25 красавіка ў Гаспадарчым судзе Гарадзенскай вобласці адбудзецца разгляд спасылкі Рамуальда Улана, галоўнага рэдактара недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Новая газета Смаргоні», да інспекцыі дзяржаўнага падатковага камітэта па Гарадзенскай вобласці.**

Рамуальд Улан патрабуе суд перагледзець рашэнне падатковай інспекцыі, прынятае 27 снежня 2000 года. Паводле гэтага рашэння, падатковая інспекцыя наклала на «Новую газету Смаргоні» штрафныя санкцыі ў памеры 2 мільёнаў 400 тысяч рублёў, за быццам бы знойдзеныя падчас праверкі парушэнні ў фінансавай дзейнасці газеты. У сваім спасылку Рамуальд Улан лічыць узгаданае рашэнне беспадстаўным і просіць суд значна зменшыць памер штрафу.

Графік выхаду ПАГОНІ не дазваляе аператыўна паведаміць пра вынікі суда, таму падрабязнасці чытайце ў наступным нумары. Мы спадзяемся, што суд будзе аб'ектыўным у дачыненні да «Новай газеты Смаргоні».

## 15 зорак Давіда на будынак БНФ

**У ноч з 22 на 23 красавіка у Гродне невядомымі быў апаганены будынак штабкватэры мясцовай арганізацыі БНФ «Адраджэньне».**

На сценах і на вокнах чорнай фарбай нехта намаляваў каля пятнаццаці зорак Давіда. Невядомыя спрабавалі таксама знішчыць шыльду БНФ «Адраджэньне». Аднак яна вісіць даволі высока, таму яны змаглі толькі зафарбаваць яе ніжнюю частку.

Члены мясцовай арганізацыі БНФ «Адраджэньне» выказваюць меркаванне, што гэтая «злачынная спроба» была здзейснена мясцовымі прафашысцкімі арганізацыямі, якія такім чынам адзначылі дзень нараджэння Гітлера.

## Вуліца Маркса была перайменаваная...

**Увечары 23 красавіка расейскі кінарэжысёр Дзмітрый Астрахан закончыў гарадзенскія здымкі новага фільма «Бабін яр», прысвечанага ваенным падзеям 1941 года ў Кіеве.**

Для ўдзелу ў здымках масавых сцэнаў у Гродне было адабрана каля тысячы чалавек. Ролю салдатаў фашысцкай Германіі выконвалі салдаты ўнутраных войскаў з часцей, што дыслакуюцца ў Гродне. На тры дні, з 21 па 23 красавіка, старыя вуліцы горада пераўтвараліся ў разбітыя бомбамі яўрэйскія кварталы Кіева. На сценах былі наклееныя ўлёткі на нямецкай і украінскай мовах, гарадзенская вуліца Карла Маркса была перайменаваная ў вуліцу Вызвалення.

Падчас здымак адбыўся забаўны выпадак. Кінааператары здымалі эпізод зачысткі фашыстамі яўрэйскага квартала, калі з будынка выбегла жанчына ў гадах і пачала крычаць: «Фашысты! Як вы ўжо абрыдлі! Прэч з горада!».

За здымкі ў масавых сцэнах гарадзенцы атрымалі па тры тысячы рублёў, а за эпізадычную ролю плацілі па 15 тысяч. З 24 красавіка Дзмітрый Астрахан працягнуў здымкі фільма ў Менску.

Павал Мажэйка




**26, 27 красавіка** - воблачна, з праясненнямі, месцамі - кароткачасовыя ападкі, раніцою - туман, вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра 26, 27 красавіка ўначы +4...+9, удзень +9...+14 (месцамі - да +17).

# Гарадзеншчына і Чарнобыль: на 10 тысяч чалавек 10037 захворванняў!

**У Гарадзенскай вобласці на карту радыяцыйнай забруджанасці нанесеныя 150 населеных пунктаў. 79 з іх знаходзяцца ў Івейскім раёне, 44 - у Дзятлаўскім, 26 - у Навагрудскім і адзін - у Карэліцкім раёнах. У пераважнай большасці гэта вёскі з дозай радыяцыі ад 1 да 5 кюры на квадратны кіламетр, што, паводле рэестра, азначае населены пункт з зонай перыядычнага радыяцыйнага кантролю. Тры вёскі вобласці, Збойск, Гердушкі Івейскага раёна і Гнесічы Навагрудскага маюць статут зоны з правам на адсяленне.**




Як адзначыў на прэс-канферэнцыі для гарадзенскіх журналістаў Аляксандр Алёшын, начальнік аддзела па надзвычайных здарэннях і абароне насельніцтва да наступстваў аварыі на ЧАЭС гарадзенскага аблвыканкама, на забруджанай тэрыторыі Гарадзеншчыны пражывае больш за 25,5 тысячы чалавек, з іх каля шасці тысяч - дзеці.

У 2000 годзе на Гарадзеншчыне было зафіксавана на 10 тысяч чалавек - 10037 захворванняў, звязаных з паталогіяй шчытападобнай залозы. А ў параўнанні з 1999 годам, колькасць хворых на шчытападобную залозу павялічылася на 40 працэнтаў. На 33 працэнты адзначаны ў вобласці рост захворванняў па злаякасных пухлінах, на 24 працэнты - па дабраякасных.

На 2,5 працэнта павялічылася колькасць дзяцей, у якіх знаходзяць хваробы крыві і крывазвароту. Аднак, нягледзячы на гэтую статыстыку, адпаведна словам Галіны Пракаповіч, начальніцы абласнога ўпраўлення аховы здароўя, назіраецца зніжэнне агульнай захворвальнасці насельніцтва нашай вобласці.

У сумнай статыстыцы па анкалагічных захворваннях «лідзіруе» Карэліцкі раён - 535 хворых на 10 тысяч насельніцтва, у Дзятлаўскім раёне - 386. Сярэдні паказчык анказахворванняў у вобласці роўны 301,4 на 10 тысяч чалавек.

За тыя 15 гадоў, што прайшлі пасля аварыі, у Гарадзенскую вобласць з зоны абавязковага адсялення пераехалі 4,5 тысячы сем'яў, прыблізна каля 16 тысяч чалавек. Для перасяленцаў было пабудавана агулам 4720 кватэраў і хатаў. Тэндэнцыя апошніх гадоў - перасяленцы прадаюць атрыманыя кватэры і вяртаюцца назад. У некаторых «перасяленскіх» мястэчках вобласці колькасць тых, хто ад'ехаў, складае каля 20 працэнтаў. Паводле словаў Аляксандра Алёшына, большасць з іх з'язджаюць «не таму, што любяць радзіму, а каб зарабіць грошай, прадаўшы бясплатныя кватэры, выдзеленыя ім дзяржавай».

Іван Паўлёнак

(Працяг тэмы - на стар. 4)

# Мост да Старога замка адрэстаўруюць

**20 мільёнаў 600 тысяч рублёў выдаткавана з бюджэту Беларусі на рэканструкцыю Гарадзенскага Старога замка і, у прыватнасці, маста да замка. Наогул, дзяржава выдаткавала ў 2001 годзе 680 мільёнаў рублёў на капітальны рамонт 19-ці помнікаў архітэктуры. Пра гэта паведаміў Ігар Чарняўскі, намеснік старшыні Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры Міністэрстве культуры Беларусі. Сярод найбольш важных Ігар Чарняўскі назваў Гарадзенскі ды Навагрудскі замкі.**

Як адзначыў ПАГОНІ Віктар Качанаў, кіраўнік абласнога камітэта па рэстаўрацыі, работы па аднаўленні маста да Старога замка будуць весціся з «чыстага аркуша».

Каб ацаніць неабходны памер работаў, мост трэба ўскрыць. Выдаткаваных 20 мільёнаў, безумоўна, не дастаткова. Аднак, спадар Качанаў падкрэсліў, што гэта толькі пачатак рэстаўрацыйных работаў.

Апроч Гарадзенскага і Навагрудскага замкаў, у гэтым годзе плануецца адрэстаўраваць касцёл у Карэлічах і кляштарны комплекс у Жыровічах.

Ул. інф.

# Русіфікацыя па-карэліцку

З аб'ектаў карэліцкага раённага спажывецкага таварыства пачалі знікаць беларускамоўныя шыльды. На іх месца мацуюцца шыльды на мове суседняй дзяржавы - Расеі. Пачалі з шыльды іх галоўнай канторы.

На нядаўна пабудаваным месцы для продажу тавараў з'явіўся надпіс «Кооперативный рынок», на адрамантаваных будынках - «Кулинария», «Бар «Молодёжный». І ніводнага надпісу на роднай беларускай мове!

Дзе гонар за нашу мову, культуру, гісторыю, Радзіму?

Кастусь Рутка

## У панядзелак мы даведаемся імя самай прыгожай дзяўчыны Гродна

**30 красавіка на сцэне абласнога драмтэатра пройдзе фінал конкурсу «Каралева прыгажосці Міс Гродна-2001». Удзел у конкурсе возьмуць 16 дзяўчатаў, дзве з якіх - прадстаўніцы рэгіёнаў, Ваўкавыска і Смаргоні.**

Сёлетняе свята прыгажосці павінна стаць адметным шоу са зменамі дэкарацыяў на сцэне, канцэртнымі нумарамі ды забавамі для гледачоў. У антрактах у фае размесцяцца прэзентацыі прадукцыі спонсараў імпрэзы. Тут жа можна будзе сфатаграфавацца з VIP-гасцямі шоу - Сашай Варламавым, Наталляй Траян, Міхаілам Троцкім (дырэктарам конкурсу «Міс Палонія») ды іншымі. Сярод гледачоў, якія ўгадаюць «Міс публікі», будуць разыграныя пуцёўка ў Гішпанію і набор касметыкі з серыі секс-камфорт.

Цікавы факт: гарадзенскі конкурс прыгажосці ўжо не ўпершыню праходзіць у панядзелак. Мабыць, каб змяніць рэпутацыю цяжкога дня.

Алена Сіневіч

## Знайшлі «велікоднага» забойцу

**Затрыманы па падазрэнню ў забойстве 15 красавіка ў Гродне трох жанчынаў 23-гадовы мясцовы жыхар часткова прызнаў сваю віну. Такую інфармацыю распаўсюдзіў прэс-цэнтр УУС Гарадзенскага аблвыканкама.**

15 красавіка ў Гродне, у кватэры дома па вуліцы Гогаля, былі знойдзеныя трупы трох па-зверску забітых жанчынаў. Пра забойства ў міліцыю паведаміла суседка, якая прыйшла павіншаваць жанчынаў з Вялікаднем. Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў быў затрыманы 23-гадовы гарадзенец, які аказаўся сябрам сына забітай 56-гадовай гаспадыні кватэры. Паводле інфармацыі прэс-цэнтра, затрыманы прызнаўся ў забойстве, але толькі адной жанчыны. Следства працягваецца, аднак следчыя пасля аналізу наяўных доказаў лічаць, што менавіта затрыманы з'яўляецца выканаўцам трох забойстваў.

На дадзены момант высвятляюцца матывы, якія кіравалі маладым гарадзенцам.

## На дарогах, як на вайне

**Амаль удвая, у параўнанні з 2000 годам, павялічылася колькасць дарожна-транспартных здарэнняў (ДТЗ) са смяротным зыходам, што адбыліся ў Гарадзенскай вобласці з пачатку бягучага года. Такія звесткі распаўсюдзіў прэс-цэнтр УУС Гарадзенскага аблвыканкама.**

За тры з паловай месяцы бягучага года ў вобласці ў выніку ДТЗ загінуў 41 чалавек, а за такі ж перыяд 2000 года - 21 чалавек. Апошняе цяжкае ДТЗ здарылася 20 красавіка, прыблізна каля 21 гадзіны, у Гродне. На вуліцы Перамогі невядомае аўтамашына збіла жанчыну прыблізна 45-50 гадоў, асоба якой пакуль не ўстаноўленая. Ад атрыманых траўмаў жанчына памерла на месцы аварыі. Адшукаць машыну і вадзіцеля, які ўчыніў наезд, не ўдалося, нягледзячы на тое, што ў горадзе быў аператыўна ўведзены план «Перахват».

Павал Мажэйка

# Патрэбны свой нацыянальны герой

**Сем гадоў таму, калі рыхтаваліся да выбараў першага беларускага прэзідэнта, ва ўсе арганізацыі з цэнтра паступіла тайнае ўказанне: правесці сходы ва ўсіх працоўных калектывах, азнаёміць людзей з усімі кандыдатамі, але пераканаць іх галасаваць за Кебіча. Што з гэтага атрымалася, усе мы ведаем. Чаму ж атрымалася менавіта так?**

Вячаслаў Кебіч, адцясніўшы Станіслава Шушкевіча, спрабаваў узысці на прастол. Але ўсе бачылі і ведалі, што на гэтую пасаду ён не прыдатны, ды і ніхто не хацеў галасаваць па ўказцы. Станіслава Шушкевіча не выбралі таму, што ён, яшчэ будучы спікерам, пацярпеў фіяска ў барацьбе з Кебічам. А вось разумнага, талковага, вельмі аўтарытэтнага Зянона Пазьняка не абралі, я думаю, з іншай прычыны. Зянон Пазьняк - вядомы палітык. Да яго меркавання прыслухоўваліся ўсе ад малога да вялікага. На сустрэчы з ім бегалі цішком ад начальства. Ён паланіў слухачоў сваёй эрудыцыяй, сваім уменнем раскласці па палічках усе плюсы і мінусы палітыкі дзяржавы. Зянон Пазьняк бачыў добрыя і кепскія бакі нашага геапалітычнага становішча ў Еўропе. Ён вабіў, заваражваў сваім маўленнем, сваёй напорыстасцю і мэтанакіраванасцю. Пасля сустрэчы з Пазьняком яшчэ доўга абмяркоўваліся наноў усе пытанні, якія ён закранаў у сваіх гутарках з народам. І быць бы яму прэзідэнтам, калі б не адно «але»! Аглядаючыся толькі на Захад, Зянон Пазьняк зрабіў тую ж памылку, што надалей зрабіў і Аляксандр Лукашэнка, абапіраючыся толькі на Усход. Вынік вядомы: народ не пайшоў за ім.

Аляксандр Лукашэнка, не зважаючы на аўтарытэты, жорстка і напорыста ўвайшоў у палітыку. Нездарма яго настольнай кнігай была праца Дэйла Карнэгі. Лукашэнка паабяцаў народу разабрацца з усімі буйнымі і дробнымі зладзюжкамі, што разбазарвалі дзяржаўнае дабро. Народ клюнуў! Старая, як свет, песня: адных перасаджаем, другіх падсадзім у крэсла. Пісьменныя людзі бачылі, што гэтая пташачка невысока лётае. Але асноўная частка народа, якая раней і слова праўды не чула ад высокага начальства, рушыла ў бой за «свайго» прэзідэнта. І выйгралі сельскія жыхары, якія ўсё сваё цяжкае жыццё аралі і сеялі «задарма», назапасілі такія-сякія крыхі на выпадак смерці, каб пайсці з жыцця па-людску, і раптоўна ўсё страцілі. З прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі яны набылі ўпэўненасць у тым, што цяпер і ў іх у чырвоным куце заміргіць блакітным агеньчыкам абяцаны прэзідэнтам тэлевізар. На жаль... Накрыўся доўгачаканы тэлевізар медным тазікам. Цяпер яго ў такім выглядзе трэба паставіць на кожнай плошчы замест помнікаў Вялікаму Леніну, каб, ідучы на выбары, усе сур'ёзна падумалі, за каго галасаваць.

Праз столькі гадоў пасля тых выбараў ужо нават вясковыя бабулі, якія вочы гатовыя былі выдзерці за ўлюбёнага Лукашэнку, цяпер расчараваліся ў сваім выбранніку. Што і казаць, бедным беларусам жывецца так цяжка, што горай няма куды. Галоўнае, што ні ва ўрада, ні ў прэзідэнта, ні ў народа няма ідэі, як жыць лепш. І, на жаль, няма на гарызонце ніводнай кандыдатуры, дастойнай замяніць прэзідэнта сённяшняга. У Беларусі такія людзі, канечне, ёсць, і яны ўмелі б і змаглі б. Але ж для таго, каб распачаць барацьбу за ўладу з сённяшнім прэзідэнтам, патрэбна не толькі палітычная, але і асабістая смеласць. Трэба яшчэ ўмець адмовіцца ад таго, што маеш. Бо калі ўжо выбіраць у прэзідэнты, дык таго, хто мае досвед работы з людзьмі, кіруе нейкім буйным прамысловым ці аграрным аб'яднаннем альбо цэлым раёнам, у каго не на словах, а на справе ўсё выдатна атрымліваецца. На жаль, такія людзі не хочуць ісці ў прэзідэнты. У іх даволі важкая сініца ў руках ужо ёсць, і, распачаўшы барацьбу за прэзідэнцкае крэсла, яе незнарок можна страціць.

Пры адсутнасці рэальных кандыдатураў на пасаду прэзідэнта Аляксандр Лукашэнка больш чым упэўнены ў сваёй перамозе і гэтым разам. Аднак мець невыязнога прэзідэнта - гэта ганьба для дзяржавы. Дзіва дзіўнае, чаму яго так заклінавала толькі на Расеі, чаму ён у свой час не прыслухаўся да разумных парадаў і не праводзіў ужо тады шматвектарную палітыку. Няўжо так спадзяваўся на расейскі трон? Вялікія дзяржавы і даўнія прыязныя суседзі: Украіна, Польшча, Прыбалтыка. Чаму такімі зняважлівымі былі ў Лукашэнкі адносіны да іх? Амаль жа ўсю тую сыравіну, што мы атрымліваем з Расеі, можна было без вялікіх выдаткаў увозіць з Украіны і Польшчы. Чаму мы выходзім у мора цераз Калінінградскі порт, калі ёсць больш блізкія? Чаму рыбку, залатую па цане, вязем з Далёкага Усходу і з поўначы Расеі, калі можна купіць у Польшчы, ці ў прыбалтыйскіх краінах танней? І гэта называецца клопатам пра беларусаў.

Зусім яшчэ нядаўна з усёй Беларусі і з захаду Расеі мяшэчнікі ў вялізных баулах цягнулі ў тую ж Польшчу разнастайны тавар. Хіба нельга было ў свой час пастаўляць у Польшчу беларускія тэлевізары, якія карысталіся там вялізным попытам, і такім чынам захаваць рынак збыту па сённяшні дзень? Мінула некалькі гадоў, і мы ўжо не патрэбныя ў Еўропе. Наш цягнік адышоў. Тым больш, што наш усенароднаабраны прэзідэнт выпер з Драздоў прадстаўнікоў малых і вялікіх дзяржаваў, каб самому атабарыцца там «сціпла» і з вялікім размахам. Калі б хапіла здаровага розуму ды звычайнай павагі да людзей, трэба было адбудаваць Дразды для замежных амбасадаў да такога ўзроўню, каб лепшыя амбасадары ўсіх дзяржаваў захацелі пажыць і папрацаваць у нас на карысць нашай дзяржаве. А цяпер вось і пры шматвектарнай, дакладней шматфлюгернай, палітыцы толькі і застаецца яму самому бязвыхадна сядзець там.

У самым пачатку ў Лукашэнкі былі неблагія дадзеныя, каб навучыцца быць добрым прэзідэнтам. Хаця ён і не прапанаваў народу ніякай праграмы. Але высвятляецца, не было ў яго самага галоўнага: умення прыслухоўвацца да парадаў разумных людзей, вучыцца ў іх. Таму ўсе апошнія сем гадоў гібела эканоміка краіны, даходзіла да ручкі сельская гаспадарка, раскрадаліся рэшткі дабра, расчароўваўся народ. Хіба зараз хто-небудзь захоча скрасці ў сябе яшчэ пяць гадоў жыцця, марнець у беднасці і безнадзейнасці? За гэтыя пяць гадоў Расея, якая будзе мець з намі агульны Нацыянальны банк, выкупіць усю ўласнасць Беларусі, і мы застанемся звычайнай наёмнай сілай, якую які-небудзь Чубайс, калі захоча, - падключыць да ацяплення. А калі мы яму не спадабаемся, - то хто тады нас абароніць? Аб'яднанне з Расеяй - вялікая пятля для Беларусі, якая потым хутка зацягнецца. Тым больш, што мы самі з такой руплівасцю надзелі яе сабе на шыю. Цяпер ужо ўсенароднаабраны, добраадкормлены парламент Беларусі, дзе ў асноўным адны і тыя ж непатапляльныя ні пры якой уладзе вяршыцелі лёсаў беларускага народа, амаль аднадушна прагаласаваў за саюз. А вось я супраць, і мой сусед - таксама. Чаму ж у нас ніхто не спытаўся: у майго суседа, у майго народа? Той даўні хітры рэферэндум не ў лік. Часу мінула даволі шмат, сітуацыя моцна змянілася, часіны цяпер іншыя. Ды і наогул: што гэта мы ўсё ў «прымакі» да кагосьці пнемся, як быццам самастойна жыць розуму не стае?

Увогуле, сітуацыя такая: выбары ўжо зусім блізка, а вартай кандыдатуры на пасаду прэзідэнта пакуль няма. Давайце шукаць годнага чалавека, не наймаць жа яго за мяжою. І калі шукаць, дык не таго, хто спадзяецца, што нас выцягне Захад ці Усход. Патрэбны свой нацыянальны герой, надзея і выратаванне для Беларусі.

**Рэгіна Мергель, жыхарка г. Гродна**

# Усебеларускі з`езд вылучыць альтэрнатыву Лукашэнку

**У траўні бягучага года плануецца правядзенне з'езда прадстаўнікоў рэгіёнаў Беларусі з мэтай кансалідацыі грамадскасці краіны вакол альтэрнатыўнага Аляксандру Лукашэнку кандыдата на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Такое рашэнне было прынята на мінулым тыдні ў Менску падчас пасяджэння Каардынацыйнай рады «Рэгіянальная Беларусь», на якім прысутнічалі прадстаўнікі рэгіянальных кааліцыяў грамадскіх, палітычных і прафсаюзных арганізацыяў з усіх абласных цэнтраў і буйных гарадоў Беларусі.**

Для падрыхтоўкі і правядзення з'езда ўтвораны аргкамітэт. На думку кіраўніка Каардынацыйнай рады «Рэгіянальная Беларусь», магчымага кандытата на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сямёна Домаша, «гэты форум пакажа, што Аляксандр Лукашэнка не з'яўляецца адзіным кандыдатам ад народа». Удзельнікі нарады таксама распрацавалі падрабязны план дзейнасці арганізацыяў рэгіёнаў Беларусі ў прэзідэнцкай кампаніі.

# Палітычныя партыі – як тормаз

**«На сённяшні дзень праца ініцыятыўных групаў па падтрымцы магчымых кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларусі ідзе не ў належным маштабе, і адна з прычынаў гэтага - невысокая актыўнасць палітычных партый». Гэта адзначыў адзін з магчымых кандыдатаў у прэзідэнты Сямён Домаш падчас сустрэчаў з кіраўніцтвам вядучых палітычных партыяў Беларусі. Паводле інфармацыі прэс-групы Сямёна Домаша, размовы адбыліся напрыканцы мінулага тыдня.**

Мэтай сустрэчаў было жаданне магчымага кандыдата паспрыяць актывізацыі дзейнасці палітычных партыяў напярэдадні афіцыйнага абвяшчэння прэзідэнцкай кампаніі. Як заявіў Сямён Домаш, «напачатку палітычныя партыі думалі, быць ці не быць адзінаму кандыдату ад дэмакратычных сілаў, цяпер яны марудна вырашаюць, каго падтрымліваць на выбарах, а час бяжыць». Ён лічыць, што, «галоўнае - хутчэй вызначыцца з адзіным кандыдатам і яго супольнай падтрымкай, каб у грамадзянаў Беларусі была нейкая пэўнасць і каб можна было актыўна працаваць ініцыятыўным групам па падтрымцы гэтага кандыдата».

**Павал Мажэйка**

# Беларуская эліта не хоча больш бачыць Лукашэнку прэзідэнтам

**86,8 працэнта бізнесоўцаў, палітолагаў, кіраўнікоў мас-медыя як з дзяржаўных, так і з недзяржаўных структураў - не хочуць бачыць Аляксандра Лукашэнку прэзідэнтам Беларусі яшчэ на адзін тэрмін. У той жа час 22,1 працэнта гатовыя прагаласаваць на будучых прэзідэнцкіх выбарах за Сямёна Домаша. І ягоны рэйтынг паступова расце. Такія вынікі сацыялагічнага апытання Нацыянальнага Інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, прэзентаванага амбасадарам замежных краінаў і грамадска-палітычным лідарам Беларусі ў мінулую пятніцу ў штаб-кватэры місіі АБСЕ.**

У апытанні НІСЭПД узялі ўдзел звыш 70 беларускіх палісімейкераў, экспертаў, лідараў мас-медыя і бізнесоўцаў, якія раўназначна прадстаўлялі дзяржаўны і недзяржаўны сектары. Паводле дадзеных апытання, сярод магчымых кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта Беларусі вызначылася тройка лідараў (Сямён Домаш - 22,1 працэнта, Міхаіл Чыгір - 20,6 і Уладзімір Ганчарык - 13,2 працэнта адпаведна), якая істотна адарвалася ад іншых палітыкаў. Прычым, як вынікае з табліцы, прадстаўнікі дзяржструктураў хутчэй гатовыя прагаласаваць за Сямёна Домаша, чым за іншых палітыкаў, выстаўленых у рэйтынгу. Займальна, што ў тройку лідараў не ўваходзіць Аляксандр Лукашэнка, кандыдатуру якога апытаныя наогул лічаць непрымальнай.

А вось якім рэспандэнты ўяўляюць сабе будучага прэзідэнта Беларусі. Ягоны партрэт досыць рэзка адрозніваецца ад характарыстыкаў Аляксандра Лукашэнкі. 91 працэнт апытаных, пераважная большасць, бачыць будучага прэзідэнта краіны як прыхільніка радыкальных зменаў сённяшняга курсу дзяржавы, 88 працэнтаў упэўненыя, што гэта павінен быць чалавек, які будзе прытрымлівацца шматвектарнай знешняй палітыкі, гэта значыць актыўна развіваць стасункі Беларусі не толькі з Расеяй, але і з Еўропай.

У параўнанні з папярэднім апытаннем, у асяродку лідараў недзяржаўнага сектару істотна ўзрасла падтрымка адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў.

Больш за 60 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што Беларусі патрэбны незалежны кандыдат і, пажадана, не вайсковец. Адначасова, пераважная большасць апытаных - і прадстаўнікі дзяржаўнага сектару тут не выключэнне - не хочуць мець у будучыні прэзідэнта-аўтакрата. Як мяркуюць спецыялісты, вялікую ролю тут адыграў горкі досвед жыцця пры сённяшнім кіраўніку Беларусі.

**Ул. інф.**

# Як мяне абабралі, прапанаваўшы расейскі рубель

**12 сакавіка 2001 года палата «разумных абраннікаў» абабрала мяне, маю сям'ю і мой народ, ратыфікаваўшы пагадненне аб адзінай валюце з Расеяй. Каб не ўцягвацца ў мудрагелістыя палітычныя і эканамічныя назвы, паспрабую расказаць тое, сведкам чаго быў сам.**

Жылі ў адным доме 15 братоў і сёстраў. Старэйшы брат (Расея) друкаваў для ўсіх грошы, вучыў непаслухмяных, каго ГУЛАГам, каго расстрэлам. Купляў старэйшы брат маёмасць у капіталістычных краінах, забіраў культурныя і гістарычныя каштоўнасці ў сваіх братоў і сёстраў. Калі не хапала грошай на гмах Камунізму, пазычаў.

Час ішоў, браты і сёстры пасталелі, вырашылі жыць пасобку і быць гаспадарамі на сваіх землях.

Што і зрабілі. Адасобіліся!

Адчулі мы (беларусы) сябе гаспадарамі на роднай зямельцы, прыгадаўшы, што з'яўляемся цэнтрам Еўропы.

Будучыня здавалася нам квітнеючай. Так бы і было, але выбралі мы першага прэзідэнта - дэмагога. Пазней ён стаў самазванцам. Усё, што мелі, на хакейныя пляцоўкі пусціў. А нам тлумачыў, што такога росквіту яшчэ не было. Хваліўся, што пазыкаў не мае (проста такому гаспадару ніхто не пазычаў). Рубель беларускі настолькі ўзмацніў, што для поўнага шчасця яго трэба падвязаць да брата (расейскага) рубля.




А старэйшы брат (Расея) усю замежную маёмасць і ўсё, што скраў у сваякоў, пакінуў сабе, паабяцаўшы аддаць даўгі. Дарэчы, згоды на гэта ў нас ніхто не пытаўся. А цяпер заяўляе, што і даўгі плаціць не будзе, бо грошай няма.

За некалькі апошніх гадоў набраў і праеў столькі крэдытаў, што на выплату пенсіяў і заробкаў не хапае, не тое што на вяртанне пазыкі.

А цяпер галоўны наш кіраўнік Лукавы з-пад Шклова загадаў нашыя грошы, няхай і невялікія, але крывёй і мазалём запрацаваныя, суседу-п'яніцы аддаць. З гэтым і пагадзіліся «прадстаўнікі сям'і» з палаты.

Галоўным аргументам для здачы грошай, разам з Незалежнасцю, было абяцанне пазычыць нам грошы, якія можа друкаваць «старэйшы брат» цяпер колькі заўгодна. У нас і пытацца не трэба. Сам друкуе - сам дае, а мы працаваць ды аддаваць маёмасць і дзяцей будзем.

Дазваляем мы сябе дурыць!? Дазваляем! Цяпер можна і пасмяяцца. Смяецца, а не плача той, у каго забіраць ужо няма чаго.

**Зміцер Пачуйскі**

# Настальгія па страчаным раі



**У мінулы чацвер у мастацкай галерэі «Тызенгаўз» паспяхова прайшло адкрыццё выставы жывапісу нашага земляка, а зараз - жыхара Менска - Кастуся Качана.**

Урачыстую атмасферу стварыла музыка квартэту камернага аркестра Гарадзенскай капэлы і, як заўсёды на падобных прэзентацыях, кветкі, чырвонае віно, цытрусавыя і цукеркі. Уразілі таксама эмацыйныя прамоўцы.

Мастак Уладзімір Качан павіншаваў свайго цёзку па прозвішчу з другой па ліку ў Гродне персанальнай выставай і пахваліў калегу за значныя поспехі ў галіне пейзажыстыкі. Доктар гісторыі Алесь Краўцэвіч і жартаўлівы актор Віктар Шалкевіч зазначылі, што Кастусь Качан адлюстраваў на сваіх палотнах тую патрыярхальную Беларусь, якой сёння фактычна ўжо няма...

Сапраўды, зараз мы толькі марым пра страчаны рай, згадваем родную вёску, старажытныя святыні, залатыя палі, росныя лугі ды зялёныя дубровы. Знайсці «страчаны рай» нам дапамогуць рамантычныя пейзажы Кастуся Качана.

**Людвік Сарока**

**На здымку: Кастусь Качан адкрывае сваю выставу**

# Усю зіму – на парсючкоў!

**Пара парсючкоў на карэліцкім кірмашы ў мінулую пятніцу каштавала ад 70 да 80 тысяч рублёў. Калгасніку трэба было ўсю зіму працаваць на гэтую пару парасятаў.**

Надзея ў сялянаў была, што хоць за прададзеную бульбу можна будзе паправіць сваё матэрыяльнае становішча. Але мясцовая нарыхтоўчая кантора скупае бульбу ўсяго па 75 рублёў за кілаграм і насенную па 50 рублёў за кілаграм. Крыху большыя гэтыя цэны ў камерсантаў - 85-90 рублёў за адзін кілаграм. Цана бульбы практычна засталася такой жа, як і год таму. У той жа час кошты на тавары першай неабходнасці ўзраслі амаль удвая. Напрыклад, калі за мех цукру селяніну трэба было здаць чатыры мяхі бульбы, то цяпер - восем.

**Андрусь Шах**

# Залатая бульба ў Мастах

**Такой яна стане для мастаўчанаў, якія не маюць уласнага надзелу і, як павялося здавён, ад сваіх працоўных арганізацыяў арандуюць зямлю ў калгасах пад пасадку бульбы.**

Адпаведна разлікам першага намесніка старшыні райвыканкама, начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Сяргея Штарнова, адна сотка бульбы, пачынаючы ад пасадкі да капання, будзе сёлета каштаваць 40 тысяч рублёў. Варта зазначыць, што звычайна мастаўчанам давалі дзесяць сотак зямлі. Колькі людзей пагодзіцца выплаціць такую суму, сказаць цяжка.

Да прыкладу, заробная плата медычнай сястры складае ў месяц прыкладна 40 тысяч рублёў.

Кошт пасадкі і апрацоўкі бульбы распаўсюджваецца толькі на простых грамадзянаў. Ён не датычыць раённага кіраўніцтва. Тыя бяруць па некалькі надзелаў зямлі ў розных калгасах, саджаюць калгаснае насенне ды апрацоўваюць калгаснай тэхнікай. Старшыня Мастоўскага райвыканкама Аляксандр Кісялёў, прывёз некалькі гадоў таму два прычэпы такой бульбы (з камянямі, з зямлёю) у калгас імя Чапаева, ды ссыпаў яе ў капец. (Пра гэта ў свой час пісала газета «Мастоўскі веснік», але Кісялёў не падаў у суд для абароны свайго гонару і годнасці). На наступны год Кісялёў здаў тую бульбу ў нарыхтоўчую кантору, а не ў калгас, дзякуючы намаганням якога яна вырасла. Таму што закупачны кошт яе ў гэтай арганізацыі быў большы, чым у калгасах. Пасля гэтага на працягу двух тыдняў ніхто са здатчыкаў сельгаспрадукцыі не мог атрымаць грошы. Бо іх збіралі (паколькі разлік ідзе ад выручкі), каб разлічыцца са старшынём райвыканкама. Як у той час сцвярджалі дасведчаныя людзі, гэтая сума сягала болей за 1000 даляраў.

Звычайна, кошт пасадкі бульбы для мастаўчанаў крыху ніжэй чым разліковы. Таму што даюць арганізацыі сваім работнікам тэхніку, людзі карыстаюцца сваім насеннем. Але сёлета і гэта іх не выратоўвае. На галоўным прадпрыемстве горада ААТ «Мастыдрэў», дзе працуе амаль чатыры тысячы чалавек, кошт пасадкі і апрацоўкі такога жыццёванеабходнага прадукту як бульба, узрос удвая. Паколькі заробкі тут нізкія і выплочваюцца з затрымкай на месяцы, то папаўзлі чуткі, што заводскі прафсаюз пасадкаю - а гэта іх асноўны від дзейнасці - займацца не будзе. Адным словам, кожны выжывае, як можа!

**Міхась Карпейчык**

# Гаражнае пытанне вырашана?

**Са студзеня 1997 года па красавік 2001 года попыт на гаражы ў Гродне знізіўся больш як у чатыры разы. З якой прычыны? Няўжо ў Гродне, нарэшце, вырашана вельмі важная праблема: кожнаму аўтамабілю - гараж?**

Належыць адзначыць, што, сапраўды, часткова гэтая праблема вырашана. За апошнія чатыры гады пабудаваны новыя гаражы (комплексы) у раёне мясакамбіната, КБМ, аўтазапраўчанай станцыі «Вішнявец», у раёне «Панямунь». Вялікі ўплыў на зніжэнне попыту на гаражы аказала адкрыццё новых і пашырэнне старых платных аўтастаянак (вуліца Каліноўскага, праспект Касманаўтаў, вуліца Камунальная, праспект 40 гадоў Перамогі (праспект Кляцкова), вуліца Белуша, вуліца 17-верасня ды іншыя). Бліжэйшым часам павінна адкрыцца платная аўтастаянка па вуліцы Вучгасаўскай. У планах - па вуліцы Ліможа. Своеасаблівыя платныя стаянкі з'явіліся ў «прыватным сектары». Ва дварах блізу старэнькіх дамоў «начуюць» па тры-чатыры іншамаркі. На зніжэнне попыту на гаражы таксама паўплывала павелічэнне індывідуальнага будаўніцтва дамоў, катэджаў, у кожным з якіх у большасці свайго адзін-два гаражы.

Тым не менш, цяпер у Гродне попыт на гаражы ўсё-такі ёсць. Аўтаўладальнікі жадалі б набыць ахоўваемы гараж з усімі «камунікацыямі» ў межах 1000 даляраў ЗША. Пры гэтым, самае галоўнае, каб гараж знаходзіўся непадалёк месцажыхарства аўтаўладальніка. Аднак, сёння ў Гродне падобных прапановаў вельмі мала, і ў 1000 даляраў ЗША ў такіх выпадках укладзіся праблематычна.

На мінулым тыдні ў Гродне былі наступныя прапановы гаражоў на продаж (гл. табліцу). Як бачна, кошт гаража залежыць перш за ўсё ад месцазнаходжання, памеру гаража, матэрыялу сценаў, наяўнасці асвятлення, ямы, падвала ды іншых фактараў. Кошты вагаюцца ад 300 да 2700 даляраў ЗША. Прычым, варта адзначыць, што кошты на многія гаражы неабгрунтавана завышаныя. Калі прааналізаваць рыэлтарскую інфармацыю па гаражах у Гродне за мінулыя чатыры гады, становіцца відавочным, што многія гаражы прадаюцца ўвесь гэты час... І запрошваемыя кошты толькі нязначна зніжаныя.

Рэальная ж у Гродне цана гаража памерам 3х6 метра з ямай, падвалам, асвятленнем і аховай знаходзіцца паміж коштам попыту ў 1000 даляраў ЗША і прапановай ў 1500 даляраў ЗША. Большы сумы сёння ў Гродне нерэальныя.

Адпаведна рыэлтарскай інфармацыі па Гродне, суадносіны попыту на гаражы да прапановы - 1:6. Гэта яшчэ раз пацвярджае нерэальнасць запрошваемых сумаў ў 2200, 2500, 2700 даляраў ЗША.

Найбольшая колькасць прапановаў на продаж гаражоў - на ўскрайках горада (раён КБМ, мясакамбіната, раён «Панямунь» і гэтак далей). Аўтаўладальнікаў прапановы сёння таксама наўрад ці вельмі цікавяць.

Наогул жа кошты на гаражы ў Гродне са студзеня 1997 года па красавік 2001 года знізіліся больш чым на 70 працэнтаў.

Канчатковае вырашэнне гаражнага пытання ў Гродне магчымае, калі шматпавярховыя дамы будуць узводзіцца разам з гаражамі, ахоўваемымі месцамі паркоўкі ў самім доме. Як, напрыклад, у доме, што будуецца сёння на скрыжаванні праспекта Я.Купалы і былога праспекта 40 гадоў Перамогі. Тэрмін здачы першага корпуса гэтага дома са своеасаблівымі гаражамі, якія знаходзяцца на ніжэйшых паверхах, - сярэдзіна бягучага года. Атрымліваецца, досвед замежных краінаў у вырашэнні гаражнага пытання спатрэбіўся. Менавіта ўказаным вышэй спосабам і павінны вырашацца гаражныя праблемы.

**Сяргей Міронаў**

| Месцазнаходжанне | Памеры (м; кв.м) | Сцены | Наяўнасць | | | | Кошт у $ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | ахова | асвятл. | яма | падвал | |
| пр-т Касманаўтаў | 2,7х5,55 | цаглян. | - | + | + | + | 900 |
| р-н мясакамбіната | 20,5 | цаглян. | - | + | + | + | 700 |
| р-н КБМ | 3,3х5,82 | цаглян. | - | + | + | + | 1900 |
| р-н «Вішнявец» | 5,7х6,9 | цаглян. | + | + | + | + | 2700 |
| пр-т Касманаўтаў (блізу аўтавакзала) | 2,88х5,54 | цаглян. | - | + | + | - | 2500 |
| р-н «Панямунь» | 2,7х5,39 | панэльн. | - | + | + | - | 650 |
| р-н «Ласосна» | 2,88х6,15 | панэльн. | + | + | + | + | 2200 |
| вул.Паповіча | 2,88х5,54 | цаглян. | - | + | + | - | 1200 |
| р-н КБМ | 2,75х5,35 | бляшан. | - | + | - | - | 300 |
| пр-т Касманаўтаў | 21,4 | цаглян. | - | + | + | - | 1000 |
| вул.Перамогі | 2,81х5,5 | панэльн. | - | + | + | + | 1300 |
| вул.Церашковай | 2,9х6,0 | цаглян. | + | + | - | - | 1200 |
| р-н мясакамбіната | 2,88х5,54 | цаглян. | - | + | + | - | 650 |
| р-н «Панямунь» | 20,6 | цаглян. | - | - | - | - | 400 |

Заўвага: прапановы ў табліцы пададзеныя выбарачна

# Пенсіянеры хутка пойдуць жабраваць

**Сёння Гарадзенская вобласць не можа самастойна забяспечыць сваіх пенсіянераў. Гэты сумны факт канстатаваў начальнік абласнога фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Іван Трусіла. У студзені на выплату ўсіх пенсіяў патрабавалася 12,99 мільярда рублёў, хоць мясцовыя суб'екты гаспадарання пералічылі крыху болей за дзевяць мільярдаў рублёў абавязковых плацяжоў сацыяльнага страхавання. І гэта пры 100-працэнтным пакзчыку збіральнасці. Амаль чатыры мільярды, якіх неставала, выплаціў Менск.**

Для эфектыўнай работы існуючай пенсійнай сістэмы неабходна, каб у эканоміцы на аднаго пенсіянера прыпадала два працоўныя. На Гарадзеншчыне ж гэтыя суадносіны - 1:1,5. Зменаў да лепшага не прадбачыцца, бо насельніцтва старэе.

Іван Трусіла бачыць толькі два выйсця са становішча: у падвышэнні альбо пенсійнага ўзросту, альбо страхавога тарыфу. Абодва варыянты ўжо апрабаваныя нашымі суседзямі. У Літве падвышэнне пенсійнага ўзросту адбываецца паступова - на тры месяцы, на год. Страхавы тарыф таксама ёсць куды падвышаць. Калі ў нас ён складае 3,5 працэнта ад фонду аплаты працы, то ў Польшчы - 45 працэнтаў. Да больш радыкальных зменаў пенсійнага заканадаўства беларуская эканоміка, на думку Івана Трусілы, пакуль не гатовая.

**Ірына Чарняўка, «БЧ»**

# А лёс склаўся так, што хрусь – і папалам...

**Усё часцей на вуліцах Гродна можна сустрэць людзей, якія просяць міласціну. А чаму іх лёс склаўся менавіта так, а не інакш? Пра свой цяжкі жыццёвы лёс распавядае 77-гадовая бабуля, жыхарка вёскі Загараны Мастоўскага раёна, якую звычайна можна ўбачыць на вуліцы Савецкай ля крамы «Папірус».**

Усмешка на тварыку малой дзяўчынкі ўжо ў адзінаццаць гадоў змянілася на горкія слёзы. Калі яшчэ маладым мужчынам памёр яе бацька. А праз шэсць гадоў пачалася Вялікая Айчынная вайна, з якой не вярнуліся чатыры родныя браты. Не вытрымаўшы такога гора, хутка памерла маці, і дзяўчына засталася адна. Вось і зараз на старасці год засталася бабуля адна.

- Сынкі мае жывуць у Расеі: адзін - у Маскве, а другі - у Санкт-Пецярбурзе. Мяне яны не наведваюць. Ім і самім цяжка даводзіцца. Дзеці мае, канечне ж, ведаюць, што я жабрую. Але ж, што ім да мяне. Міліцыя мяне не чапае, сяджу сабе ціхенька, кепскага нічога не раблю. Маю я двух унучак 12-ці і 14-ці гадоў. Праўда, ужо даўно іх не бачыла. Сыны не прыязджаюць, і ўнучкі, напэўна, пра мяне забыліся. Не прыязджаюць... А што ж зробіш? Дарога дарагая. Навошта грошы марнаваць?

Раней, калі бабуля была маладзейшая і муж яе быў жывы, мелі яны вялікую гаспадарку: дзве кароўкі, тры свінні, парутройку баранчыкаў, курэй, гусей, нават конік быў. Але ж камуністы ў калгас забралі. У той час і дзеткі калі-нікалі прыязджалі. Нябожчыка мужа пяць гадоў як няма. І ўжо два гады, у маразы і спякоту бабуля сядзіць з працягнутай рукою.

- За кошт гаспадаркі тады і жылі. Бо добра пры камуністах не было. Працавалі з узыходу да заходу сонца і больш за працай нічога не бачылі. А пра Лукашэнку нічога дрэннага не скажу: пенсію пакрысе падбаўляе, і тое добра. Хоць на каўбасу і не хапае, але ж добры прэзідэнт. Гэта не ён шкоду людзям робіць. Гэта тыя злодзеі, якія каля яго круцяцца. Удзельнічала я і ў выбарах, што ўвосень былі. Прыносілі да мяне скрынку ў хату, галасавала. Але ж за каго - не ведаю. Сказалі мне, дзе крэсліць, - там і пакрэсліла. А пакуль яны адышлі, я і забылася, за каго галасавала.

Не ведала бабуля, што ў гэтым годзе прэзідэнцкія выбары, таму была моцна здзіўлена.

- А што, Лукашэнку будуць змяняць? То я і не чула. Не трэба нам новага. Другі, можа, які злодзей прыйдзе ды і пенсіі не дасць, паздыхаем галодныя.

Вось так і сядзіць бабуля на прыступках каля крамы. Начуе і жыве ў сваякоў па мужу. Харчуецца таксама там.

- Пасцеляць мне на падлозе, я і сплю. Макаронаў сабе куплю на заробленае, малака, хлеба... Вось грошы на квіток дахаты збіраю. Паўтары тысячы ўжо назбірала, яшчэ пяцьсот - і квіток набуду. Паеду - мо агарод пасаджу, агуркоў, цыбулькі, морквачкі пару каліваў. Большую частку агарода засаджваюць суседзі. Бо я ўжо не дам рады так працаваць. Пасля дадуць мех-другі бульбы. Мне хопіць, я ў вёсцы мала бываю, усё больш тут, на вуліцы, сяджу, грошы на хлеб зараблю. Шмат не даюць, але ж дзве-тры тысячы ў дзень маю.

Пашпарта ў старой няма. Кажа, што на рынку Скідальскім скралі. З'ездзіць дахаты, пенсію атрымае, адпачне, і зноў - у Гродна на заробкі. Так і дажывае бабуля сваё стагоддзе. Час ад часу пакутуючы ад п'яніцаў ды канкурэнтаў.

**Алесь Зарэмбюк**



Яна лічыць, што новага кіраўніка нам не трэба, бо... тады мы ўсе «паздыхаем галодныя»

# Там, за калючым дротам...

**У 30-кіламетровай зоне ЧАЭС на плошчы 2,16 тысячы квадратных кіламетраў створаны Палескі дзяржаўны радыяэкалагічны запаведнік. Гэтыя тэрыторыі з-за высокай шчыльнасці забруджання ізатопамі цэзія, стронцыя і плутонія практычна назаўжды выведзены з гаспадарчага карыстання.**

**Мікалая Іванавіча Кузьменку, дырэктара Нараўлянскай зоны Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, што знаходзіцца ў 30-кіламетровай зоне адчужэння ад Чарнобыльскай АЭС, я ў той дзень сустрэць не змог.**

**- Што Вы, яго цяжка заспець у кабінеце, - паведамілі работнікі бухгалтэрыі. - Зона адчужэння - яго рабочы кабінет. Там яго шукайце...**

Зона... Нязвыклае, рэзкае на слых слова. І патыхае ад яго нечым жахлівым нават для бывалых зэкаў. Толькі гэта іншая зона. Чарнобыльская. І пачынаецца яна ў пяці кіламетрах ад Нароўлі адразу за вёскай Канатоп. Міліцэйскі пост, а далей агароджа з калючага дроту. Уезд толькі па спецыяльных прапусках. І толькі адзін раз у год, на Радуніцу, былых мясцовых жыхароў пры ўездзе ў зону лічаць пагалоўна.

Сустрэўся з Мікалаем Кузьменкам толькі ранкам наступнага дня.

- Учора затрымаўся крышачку, - кажа дырэктар. - У адным з лясных масіваў шугануў пажар. Куды ўжо тут да кабінетнай работы. Трэці пажар у гэтым годзе. Тэрыторыя - 64,5 квадратных кіламетраў. Пяць лясніцтваў размешчаны ў зоне адчужэння, а гэта калектыў у 140 чалавек.

Пажар у зоне - не рэдкасць. І часцей за ўсё ўзнікаюць пажары па віне нядбайных наведвальнікаў - грыбнікоў, аматараў забароннай рыбнай лоўлі, самасёлаў.

Як праязджаеш вёскі - Вепры, Надтачаеўку, Даўляды, Хаткі, - жуда бярэ. Месцамі чарнеюць толькі рэшткі асмаленых сялянскіх печаў, якія неслі хатам цяпло і ўтульнасць. А вось пра дзве вёскі - Карповічы і Ліхаўня - нагадваюць толькі воданапорныя вежы. Вёскі пахаваныя яшчэ ў першыя месяцы пасля Чарнобыльскай катастрофы. Аўтар гэтых радкоў быў міжвольным сведкам тых падзеяў. Магутная ваенная тэхніка разбурала зусім новыя пабудовы. Здавалася, дрэва плача ад болю і крыўды, паглядаючы на сваіх былых гаспадароў. А гаспадары адыходзілі - хто пасля выпітай моцнай лясной самагонкі, хто, праглынуўшы таблетку валідолу. Нервы не вытрымвалі, калі глыбокія ямы паглыналі сялянскія хаты... Наогул жа ў зоне адчужэння знаходзіцца 36 вёсак. У памяць пра іх у горадзе Нароўля ў сотні метраў ад ракі Прыпяць узведзены мемарыял, ля якога 26 красавіка штогод праводзіцца мітынг-рэквіем з удзелам святара.

***Аляксандр Лукашэнка пра сітуацыю ў «чарнобыльскіх раёнах»***
***Я ўвесь час, кожны год бываю там, за калючым дротам. Я з людзьмі размаўляў. Як вы сябе адчуваеце? Што змянілася? Ну, дай Бог, каб усім было так, як у іх. («Панарама», 26.04.2000 года).***

Але жыццё за калючым дротам працягваецца. Адразу за шлагбаумам у вёсцы Канатоп знаходзіцца пункт санапрацоўкі тэхнікі, служба дэзактывацыі, пажарна-хімічная станцыя, дзве лясныя пажарныя аўтамашыны на базе БМП, дазіметрысты. У кожным лясніцтве - свая пажарная аўтамашына. З першага красавіка арганізавана кругласутачнае дзяжурства. Аховай жывёльнага свету займаецца пяць егераў. У 2001 годзе затрыманыя 24 браканьеры на рацэ Прыпяць і азёрах. Але гэта адзінкі. Браканьерам дапамагаюць і родныя сцены. На промысел ідуць людзі, якія добра ведаюць тутэйшыя месцы. Паспрабуй, уганіся...

У апошнія гады ў моду ўвайшоў крадзеж каляровых металаў. У зоне адчужэння іх днём з агнём не знойдзеш. Усё, што магчыма было выкарыстаць у мэтах нажывы, вывезена ў першыя гады пасля катастрофы. Як кажуць, каму гора, а каму - маці родная. Марадзёрства пачало квітнець адразу пасля эвакуацыі жыхароў у больш чыстыя месцы пасялення. Людзі маглі жыць у дзесяці кіламетрах ад роднай хаты, але ўваход-уезд строга забараняўся. Прабіваліся «партызанскімі сцежкамі». Яны бралі сваё. Марадзёры - усё, што можна было ўнесці, увезці. Ад трансфарматарных падстанцыяў засталіся толькі жалезабетонныя падмуркі. Пра лініі электраперадачаў і гаворкі быць не можа. Пра іх нагадваюць толькі зрэзаныя і паваленыя слупы. Чарга дайшла да самой ЧАЭС. Як ні дзіўна, але на «справу» ідуць металашукальнікі з суседніх з Нароўляй раёнаў - Ельскага і Мазырскага. Паўтара года таму нехта Паўлавец з Мазыра з двума сваімі дружбакамі быў заспеты на гарачым супрацоўнікамі Украінскай міліцыі пры загрузцы ў аўтамашыну болей як тоны алюмінія са склада ЧАЭС.

А вось яшчэ адзін абуральны прыклад. Восем гадоў правядзе ў месцах пазбаўлення волі адзін з жыхароў горада Нароўля. Дык вось, нараўлянін заўважыў аўтамашыну сваіх канкурэнтаў, якія перасякалі мяжу з боку Украіны, везучы каляровы метал з ЧАЭС. Выкарыстаў партызанскі метад барацьбы - кінуў бутэльку з запальнай сумессю. Ды і ў самой Нароўлі былі знойдзены немалыя запасы скрадзеных каляровых металаў.

Пра што думаў вадзіцель Кабанек з Нароўлі, ніхто не даведаецца. Ён не рызыкаваў патрапіць на ЧАЭС дзеля нажывы. Працаваў кіроўцам у Нараўлянскай зоне Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Свой бізнес вырашыў зрабіць на лініі электраперадачаў Ельск-Нароўля. У выніку дзеці засталіся без бацькі.

Падчас аповеду пра свайго падапечнага Мікалай Іванавіч не хаваў свайго хвалявання.

- А які талковы, працавіты быў хлопец!

***Аляксандр Лукашэнка пра сітуацыю ў «чарнобыльскіх раёнах»***
***Я гарантавана магу заявіць, што так, як вырашаюцца гэтыя пытанні ў Беларусі, яны не вырашаюцца ні ў адной іншай вобласці ў іншых рэспубліках. Адчуваецца, што людзі пачуваюць і разумеюць, што яны не кінутыя. А мы ім далі надзею, што мы не толькі іх не кінулі, мы ім далі надзею, што мы ім вернем гэтыя землі з часам да актыўнага жыцця. (З рэпартажу праграмы БТ «Панарама» /12 жніўня 1999 года/ пра паездку кіраўніка дзяржавы ў Кармянскі раён).***

Зарплата у работніка радыеактыўнай зоны незайдросная - 70 тысяч у месяц. Той, хто тут працуе, мае пры сабе назапашвальнік радыенуклідаў. Там, дзе радыяцыя складае 15 кюры на квадратны кіламетр, працуюць па сем гадзін на суткі. Ёсць піларама. Перапрацоўцы лес падлягае ў зоне 15-40 кюры. У год перапрацоўваецца дзве тысячы кубаметраў драўніны. Прадукцыя трапляе ў Нараўлянскі лясгас, ПМК-107, Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Адначасова вядзецца пасадка. Саджанцы, а яны вырошчваюцца ва ўласных пітомніках, высаджваюцца на 200 гектарах у год - па 40 гектараў на лясніцтва. За дзесяць гадоў існавання запаведніка высаджана 1,5 тысячы гектараў. Ёсць ідэя ў зоне адчужэння закласці сад. Але з матэрыяльнымі рэсурсамі вельмі цяжка. Каб закупіць на першы раз 1000-1200 саджанцаў, няма грошай.

Дапякаюць ваўкі. Для іх не праблема напасці на ласёў, асабліва на маладых асобінаў. Толькі ў гэтым годзе з верталёта адстралялі 50 мацёрых драпежнікаў. Ваўкі знаходзяць прыстанак не толькі ў лясных масівах, але і ў пакінутых хатах, хлявах. Статкі дзікіх вяпрукоў здзяйсняюць набегі на пасевы бульбы і кукурузы, што непадалёк ад зоны. Мігруюць з суседняй Украіны. У адселеных вёсках зямля месцамі так паскопваная, нібы тут толькі што прайшоў культыватар.

- Кажуць, нават рысь з'явілася? - пытаюся.

- Пакуль што гэта толькі чуткі, - кажа Мікалай Кузьменка. - Але чым чорт не жартуе. У гэтых паўдзікунскіх месцах з часам усякае можа быць. А вось белахвосты арлан ёсць, чорны бусел - не рэдкасць. Ёсць новыя віды балотных чарапахаў. А пра насякомых і казаць не даводзіцца. Якіх відаў іх толькі тут няма...

Самае жудаснае месца ў запаведніку - каля вёскі Хаткі, што побач з украінскай мяжой. У свой час на вялізнай плошчы Украіна размясціла могільнік для пахавання радыеактыўных жывёлаў. Пасля гэты аб'ект быў перададзены на баланс і абслугоўванне Гомельскай вобласці. У бетонных ямах пахавана больш як пяць тысяч тонаў радыеактыўнай ялавічыны, сметанковае масла... Страшэнны смурод вырываецца з-пад бетонных сховішчаў. Але «металісты» і тут знайшлі для сябе выгаду. Дзе-нідзе замест сеткі-рабіцы, што замяняе плот, зеўраюць пустыя праходы.

Зноў вёска Дзярновічы. Спыняемся ля адной з хатаў. Прабіраемся ў памяшканне. Вось яны, фотаздымкі ў рамках на сцяне. Пацьмянелі ад часу, але захаваліся. На іх - гаспадары ды іх сваякі. Тры гады таму на Радуніцу былы гаспадар гэтага дома сказаў: «Пакінулі, каб дом не пуставаў, каб зноў вярнуцца».

Мінула пятнаццаць гадоў пасля эвакуацыі людзей з вёскі. Пра былое жыццё ва ўжо пятнаццаць гадоў як мёртвай вёсцы такія фотаздымкі нагадваюць усё радзей. А мажліва, і вернецца яшчэ сюды жыццё хоць праз стагоддзе, а мо і раней. Бо не дарма ж пасля высялення людзей паміж школай і аптэкай прабілася крынічка са сцюдзёнай, чыстай, як сляза, вадою.

А гэтыя звесткі ўжо не з радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Дзве вёскі выйшлі з-пад кантролю запаведніка - Белы Бераг і Грыдні. Тут жывуць самасёлы. У двух кіламетрах ад цэнтру калгаса «Чырвоны баец» пасля высялення жыхароў вёска Раманаўка ператварылася ў попел. А побач зеленеюць палі, занятыя азімымі...

Найбольш высокі ўзровень забруджання малака выяўлены ў горадзе Нароўля - 2982 Бк/л, сярэдняе змяшчэнне радыяцэзія ў малацэ прыватнага сектару па раёну за першы квартал 2001 года склала 149,2 Бк/л, што вышэй за ўзровень 2000 года на 59,4 Бк/л.

**Уладзімір Сялецкі,**
**Гродна-Нароўля-Гродна**



**Зоя і Уладзімір Гнетавы аглядаюць свой разрабаваны марадзёрамі дом у в.Дудзічы ў адселенай зоне Чачэрскага раёна, 24 красавіка 2001 г. Нягледзячы на тое, што зона ахоўваецца міліцэйскімі пастамі, былыя жыхары вёскі адзначаюць, што з гадамі з іх дамоў знікла амаль усё - выламаны падлогі, аконныя рамы, дзверы, цэгла.**

# Перспектыва: 40 000 гадоў Беларусь будзе самай радыяцыйна бруднай краінай на планеце

**Так сцвярджаецца ў брашуры, падрыхтаванай актывістамі «Задзіночаньня беларускіх студэнтаў», студэнткамі Міжнароднага экалагічнага універсітэта імя Андрэя Сахарава Юліяй Шадзянковай і Беларускага дзяржаўнага універсітэта Галінай Яшчанка да выставы «Чарнобыль - шанец выжыць», якая з 19-га па 26-е красавіка экспануецца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы.**

**Брашура складзеная на аснове дадзеных ірландскага часопіса «The Official Magazine of the Students' 10K for Chernobyl Children's' Project» - выдання для студэнтаў, што ажыццяўляюць чарнобыльскія праекты. У выніку чарнобыльскай катастрофы, як адзначаецца ў брашуры, у атмасферу было выкінута ў 300 разоў болей радыеактыўных рэчываў, чым пасля атамнай бамбардоўкі японскага горада Нагасакі 6 жніўня 1945 года. Больш як 70 працэнтаў гэтых рэчываў аселі на тэрыторыі Беларусі. Радыяцыяй заражана каля 25 працэнтаў сельскагаспадарчых палеткаў і лясоў. Толькі адзін працэнт ворных земляў краіны адпавядае міжнародным экалагічным стандартам. З-за адсталасці ды нерэалізаваных мажлівасцяў беларускай эканомікі болей за 1,8 мільёна чалавек, у тым ліку 500 тысяч дзяцей, працягваюць жыць у радыеактыўнай зоне, спажываць забруджаныя прадукты, ваду, і ўдыхаць атручанае паветра. Прыведзеныя ў брашуры дадзеныя ААН сведчаць, што ў Беларусі:**

**- на 250 працэнтаў падвысілася смяротнасць сярод нованароджаных;**

**- 90 працэнтаў дзяцей у забруджаных зонах маюць праблемы са здароўем;**

**- 800 тысяч дзяцей рызыкуюць захварэць на лейкемію ці рак;**

**- 170 тысяч дзяцей ва ўзросце да сямі гадоў у чарнобыльскім рэгіёне атрымалі дозу радыяцыі вышэй за норму, якая выклікае рак шчытападобнай залозы;**

**- колькасць хворых на рак шчытападобнай залозы дасягне свайго піку ў 2005-2010 гадах;**

**Упершыню ў гісторыі Беларусі смяротнасць пачала перавышаць нараджальнасць, якая скарацілася па ўсёй краіне, а ў забруджаных раёнах - знізілася на 45 працэнтаў.**

**Паводле сцвярджэння шэрагу навукоўцаў, існуе небяспека знікнення здаровага генафонду беларусаў прыкладна да 2030 году.**

**Ул. інф.**

# Уладзімір Караткевіч і Гудзевічы

**14 траўня 1967 года адбылася сустрэча гудзевіцкіх вучняў з Ларысай Геніюш, Васілём Быкавым, Вольгай Іпатавай, Данутай Бічэль-Загнетавай, Аляксеем Пяткевічам і журналістам Алесем Жалкоўскім. Партыйныя ўлады тады гэта называлі «зборышчам беларускіх нацыяналістаў у Гудзевічах. Сустрэча прайшла надзвычай цікава, але сёння не пра гэта гаворка.**

Калі я вёз на гэтую сустрэчу Васіля Быкава, то па дарозе абмяркоўвалі тыя цяжкія ўмовы, у якіх тады пакутавала беларуская літаратура.

- Цяжка ж Вам, Васіль Уладзіміравіч, цярпець усе папрокі, выдумкі, абвінавачванні, якія ўвесь час не сыходзяць са старонак перыядычнага друку на Ваш адрас, - паспачуваў я.

- Крытыка - гэта таксама прапаганда: чалавек пасля прачытання пасквіля на Васіля Быкава пацікавіцца ягонымі творамі, купіць ягоную кнігу і, калі ён не замбаваны, то разбярэцца - што да чаго. Значна цяжэй Валодзі Караткевічу: пра яго маўчаць, як быццам яго няма на свеце. Замоўчванне - самы ганебны спосаб пераследу.

У Гудзевіцкай школе кожны вучань перапісваўся з тым ці іншым пісьменнікам. Вось хтосьці з вучняў па маім заданні папрасіў у Караткевіча-патрыёта для Гудзевіцкага музея ручку, якой ён напісаў раман «Каласы пад сярпом тваім», што мне вельмі спадабаўся гістарызмам, патрыятызмам. Часта здавалася, што пісьменнік нейкім цудоўным чынам падслухаў мае думкі і выказаў іх у сваім творы. Такія сугучныя былі нашыя погляды.

Караткевіч-геній, напэўна, разважаў так: хтосьці з даследчыкаў калісьці будзе вывучаць фонды Гудзевіцкага музея і падумае, што Караткевіч, які стварыў раман «Каласы пад сярпом тваім», тут жа ручку, якой пісаў гэты твор, выслаў у музей. Ці сціпла гэта?


Алесь Белакоз
Фота з архіва

Караткевіч, сціплы чалавек, папрасіў у свайго суседа Адама Мальдзіса:

- Ты сябруеш з Гудзевічамі, быў у іх, прадказаў Гудзевіцкаму музею бліскучую будучыню, карыстаешся ў іх бязмежным даверам і велізарнай пашанай. Пашлі ты ім ручку, якой я напісаў раман «Каласы пад сярпом тваім». Мне рабіць гэта не выпадае.

Адам Мальдзіс прыслаў нам самы дарагі падарунак, аднак мы захацелі, каб Караткевіч-праўдалюб пацвердзіў, што гэта тая самая ручка.

На наш запыт пісьменнік адказаў, што калі гэтая ручка пласт-масавая, чырвоная і з белым металічным наканечнікам і калі яе прыслаў Адам Мальдзіс, то менавіта гэтай ручкай напісаны раман «Каласы пад сярпом тваім».

Цяпер гэтая ручка экспануецца ў аддзеле нашага музея «Паўстанне 1863-1864 гадоў». Экскурсанты з цікавасцю разглядаюць гэтую ручку, фатаграфуюць яе, запісваюць звесткі пра яе ў свае нататнічкі. Пытаюцца, ці быў у Гудзевічах Караткевіч, патрыярх нашай гістарычнай прозы». Адказваю:

- Не, не быў. Напрыканцы ліпеня 1967 года мы збіраліся хрысціць малодшага сына Міхаську. У той час Караткевіч, рэдактар зборніка Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана», гасцяваў з Міколам Прашковічам у Геніюшаў. Я ім усім паслаў запрашэнне на хрысціны. Уладзімір Караткевіч даў тэлеграму: «Калі Вы жадаеце, каб мы былі на хрысцінах, то прыедзьце ў гасціну да Геніюшаў».

Перад хрысцінамі - шмат турботаў, бо запрасілі мы тады каля 100 чалавек. Не мог я ў такі адказны час ускласці ўсё на Веру Ігнатаўну, а сам адпачываць, хоць нават і з такімі вядомымі людзьмі, як Ларыса Геніюш ці Уладзімір Караткевіч. Вядома, сёння я шкадую, што тады не прыдумаў нейкага кампраміснага ходу. Я тэлеграмай адказаў: «Сардэчна усіх запрашаю на хрысціны. Прыехаць не магу».

На хрысціны прыехалі Ларыса Антонаўна, Янка Пятровіч, Мікола Прашковіч, а Караткевіч не прыехаў.

Пазней запрасілі мы яго на сустрэчу з гудзевіцкімі вучнямі, але ліст дайшоў у Менск тады, калі Караткевіч быў у доўгатэрміновым ад'ездзе, а пазней запрашэнне страціла сілу з-за сваёй даўніны.

Маем шмат лістоў Уладзіміра Караткевіча ў музеі. Калі мы рыхтаваліся да 70-годдзя Караткевіча-юбіляра, падрыхтавалі для наведвальнікаў нават і тыя лісты, якія пакуль не знаходзяцца ў экспазіцыі. Якраз зайшлі ў рабочы кабінет сантэхнікі. Кажу:

- Пачытайце. Калісьці хваліцца будзеце, што трымалі ў руках лісты, напісаныя самім Караткевічам, класікам беларускай літаратуры. Хлопцы ўважліва прачыталі лісты, выйшлі, а пасля вярнуліся і папрасілі:

- А ці можна іх сфатаграфаваць? Мы заўтра зойдзем.

Я падумаў, што калі гэта так цікава людзям, то хіба варта надрукаваць іх у газеце.

У 1965 годзе я быў у Рэспубліканскім Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў на курсах кіраўнікоў раённых секцыяў беларускай мовы і літаратуры. Там пераканаўся, што Міністэрства асветы і ЦК КПБ робяць усё для знішчэння беларускай мовы, а значыць і беларускага народа. За тое, што я арганізаваў сустрэчу нашых курсантаў з 46, а пазней яшчэ з пяццю пісьменнікамі, мяне выклікалі ў Міністэрства асветы і там тры з паловай гадзіны распіналі на крыжы, пужалі, дапытвалі, пагражалі.

Вярнуўшыся з курсаў, я стварыў гурток беларускай літаратуры, у якім дзеці вучыліся пісаць вершы, збіраць фальклор, шукаць легенды пра нашыя тапонімы і мікратапонімы, высвятляць паходжанне антратапонімаў, збіраць экспанаты па этнаграфіі. Мы пачалі выдаваць літаратурна-краязнаўчы часопіс Гудзевіцкай сярэдняй школы «Праменьчык», наклад якога быў чатыры або пяць паасобнікаў, аб'ём 300-600 і нават больш друкаваных на пішучай машынцы аркушаў. У ім былі раздзелы: лірыка, сачыненні, проза, драматургія, крытыка, гумар, дапаможнік для экскурсавода, фальклор, тапаніміка і антрапанімія, лісты пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, артыстаў, навукоўцаў ды іншых. Здаралася, што ў некаторых нумарах былі не ўсе гэтыя раздзелы. Лісты ад Ларысы Геніюш, Дануты Бічэль-Загнетавай, Вольгі Іпатавай, Валянціны Ковтун, Аўгінні Кавалюк ды многіх іншых пісьменнікаў былі вельмі змястоўныя. Многія з іх друкуюцца ў шматлікіх выданнях.

Вось што 8 лютага 1966 года пісаў вучаніцы дзевятага класа Гудзевіцкай сярэдняй школы Ліліі Янушцы Уладзімір Караткевіч:

*Дарагія вучні!*

*Вельмі ўзрадаваны, што Ваш гурток займаецца такой добрай справай. Рабіце яе і надалей. Вывучайце, ведайце, любіце нашу літаратуру.*

*Кніга наша за апошнія часы вырасла да сапраўдных вышынь. Літаратура наша паступова выходзіць ў рады лепшых літаратур свету. І я веру, што пройдзе час, і яе паважаць і любіць будуць на ўсёй зямлі, магчыма, нават на народнай, на жывой нашай мове.*

*Бо літаратура наша адна з тых рэдкіх літаратур, якая, нягледзячы на інтэлектуалізм, ніколі не губляла сувязі з чалавекам працы, з яго мовай, а значыць моцныя не толькі розумам і прыгажосцю, а і сілай, чысцінёй, прастатой, непадробнай народнасцю.*

*Я даволі шмат чытаю, многімі нашымі паэтамі і празаікамі мог бы ганарыцца кожны на зямлі народ. Ганарыцеся і Вы. Ганарыцеся сваімі літаратурай і мовай.*

Ваш Уладзімір Караткевіч

Уладзімір Караткевіч як шчыры беларускі патрыёт вельмі цаніў нашу спадчыну. Калі яму да юбілею вучань сёмага класа нашай школы выткаў гальштук з надпісам на адваротным баку: **«Ул.Караткевіч 26.11.1980 г»**.

Уладзімір Караткевіч прыслаў Міхаську Белакозу (гэта ён ткаў гальштук юбіляру) свой аўтапартрэт, на якім сядае на Пегаса, каб ляцець на Парнас, а сабака Шаўко лашчыцца, каб паехаць разам. На аўтапартрэце такі аўтограф пісьменніка: «Ну чаго ты просішся? На Парнасе і сваіх - шавак хапае. На кожнага сумленнага па 300 шавак. Вось вярнуся, на паляванне сходзім».

Да ўсіх вучняў Гудзевіцкай сярэдняй школы ён (пісьменнік) даслаў такі ліст, датаваны 17 сакавіка 1981 года:

*Дарагія мае дзяўчаты і юнакі!*

*Прабачце мне за маё маўчанне. Гэта не таму, што я Вас забыў. Гальштук Ваш ляжаў вечным дакорам перад маімі вачыма. Толькі яго пакуль ані разу не надзеў, бо не было выпадку, ані разу не выходзіў на вуліцу. Як пасля дня нараджэння зваліўся хворы, так і дагэтуль не магу ачуняць-ачомацца. І жонка хворая. Ды Алесь Мікалаевіч Вам усё растлумачыць, калі захочаце, я яму ўсё напісаў.*

*Доўга пісаць па слабасці не магу, але ўсё ж як добра, што Вы і ткаць вучыцеся і вышываць. І, відаць, рабіць іншыя карысныя рэчы. Таму што і ў наш век паточнай вытворчасці, калі на поўную моц працуюць ткацкія фабрыкі - не павінен змяўкаць голас кросен.*

*Чаму? Бо толькі рукі мастака-адзіночкі (або групкі ў два-тры чалавекі) могуць стварыць не шырспажыў, не рэч, якая зносіцца і яе выкінуць, але яшчэ і рэч - прадмет мастацтва: бабульчыну посцілку, на якую нават п'яны пасаромееца зваліцца ў ботах, ручнік-вясёлку, які толькі на карціну вешаць, а калі выцірацца, то толькі не вышыванай сярэдзінай; крэсла, на якім пасядзіш, можа, раз на дзень, а зірнеш на яго з сардэчнай радасцю - пяцьдзесят.*

*Не кідайце гэтай справы, дарагія дзяўчаты і хлопцы. Лёс Вас за гэта ўзнагародзіць.*

*Яшчэ раз перапрашаю, што затрымаўся.*

*Жадаю Вам шчасця.*

Ваш Уладзімір Караткевіч

Лепш пра значэнне нашай культурнай і гістарычнай спадчыны не скажаш.

А колькі цяпер развялося пустадомкаў, якія топчуць родную мову, фальсіфікуюць нашу гісторыю, адзелі кайданы на нашу літаратуру, песню, мастацтва, гандлююць Маці-Радзімай.

Як нам патрэбныя Караткевічы, Быкавы, Брылі, Мележы, Геніюшы, Гілевічы, Іваноўскія, Марціначкі, Тарашкевічы, Домашы, Карпенкі, мільёны патрыётаў, каб наша Беларуская мова, наша беларуская песня, наша беларуская музыка, наш беларускі жывапіс, наша беларускае мастацтва, наш Беларускі народ сталі запатрабаванымі.

Я ў хаце гляджу па тэлебачанні тры рускія праграмы, чатыры польскія, адну літоўскую, але ніводнага беларускага канала, бо ранейшы беларускі стаў нацыянальным. Тое ж з радыё. Не чую цудоўных песняў Міхася Забэйды-Суміцкага, дыктары называюць яго Забэйна. Імя сцерлася з памяці народа. А гэта ж спявак Міланскай оперы, за тры білеты на ягоны канцэрт можна было карову купіць. Увесь свет слухаў ягоныя беларускія песні. Не чуем мы Данчыка, амаль не чуваць беларускіх народных песень. Замест іх мы чуем «і песню, і мову чужую». Дыктары баяцца вымаўляць слова «Беларусь». Яны кажуць: «нацыянальнае радыё», «нацыянальны сход», «нацыянальны друк», «кіраўнік краіны». Хто не прэзідэнт, а кіраўнік, то я разумею: яны не хочуць называць чалавека, тэрмін прэзідэнцтва якога скончыўся. Паўтара года мы жывем без прэзідэнта, але чаму прэзідэнт краіны, а не Беларусі. Якой краіны? Так не кажуць пра прэзідэнтаў ні ў адной краіне свету. За словы «Жыве Беларусь» садзяць у турмы, штрафуюць. Калі б у Варшаве ці Маскве чалавек крыкнуў: «Нех жые Польска» ці «Да здравствует Россия», і яго пасадзілі ці аштрафавалі, то гэта ведаў бы ўвесь свет. А ў нас - нічога, прызвычаіліся да гэтага.

Людзі! Апамятайцеся! Вас вядуць на бойню! Не ідзіце, як бараны, на смерць!

У пачатку 90-х камуністы казалі: «Навошта нам мова, нам абы каўбаса. Тыя, што баранілі сваю мову, маюць і мову, і каўбасу, яны атрымліваюць па 300-600 даляраў у месяц, а мы працуем за 20-40 даляраў. Нам завозяць з іншых краінаў міністраў, духоўнікаў, іншых «кіраўнікоў». Мы паступова страчваем кіраўнічыя пасады. Калі так пойдзе далей, то праз 10-20 гадоў мы станем быдлам, з якім ніхто не будзе лічыцца. Нашыя дзеці і ўнукі стануць парабкамі ды служанкамі, вечнымі папіхачамі. Далей па гэтай згубнай дарозе ісці нельга: наперадзе - бездань, раскапаная магіла для ўсяго беларускага народа! Адумайцеся!

**Алесь Белакоз,**
**выдатнік народнай асветы,**
**заслужаны работнік культуры,**
**кавалер медаля Францішка Скарыны**

# «Правінцыя» насыціць нас эстэтычным флюідам

**У мінулы чацвер пад эгідай гарадзенскіх літаратараў - сяброў Беларускага ПЭН-цэнтру і рэдакцыі газеты ПАГОНЯ адбылася прэзэнтацыя беластоцкага літаратурна-мастацкага часопіса «Правінцыя». Аматары беларускага вольнага слова сустрэліся з галоўным рэдактарам Аляксандрам Максімюком і мясцовымі аўтарамі ўнікальнага выдання.**

Вядучы вечарыны паэт Юры Гумянюк коратка акрэсліў сучасную культурніцкую сітуацыю ў Беларусі, распавёў пра існаванне афіцыйнай і неафіцыйнай цэнзуры ў дзяржаўных літвыданнях. Так, напрыклад, у адносінах да былой галоўнай рэдактаркі вядучага айчыннага штомесячніка «Крыніца» Галіны Булыкі за публікацыю апавядання Вінцэся Мудрова «Гарачае лета 00-га» **(«Крыніца», №9(55),1999 г.)** начальнікі ад культуры і друку зрабілі «оргвыводы», і яна сышла з пасады. Пасля прэцэдэнту рэдактары іншых дзяржаўных літвыданняў слёзна просяць сваіх «каронных» аўтараў даваць творы, якія «пройдуць», г.зн. зніжаюць грамадскую ды ідэйна-эстэтычную планку. У такіх умовах з'яўленне часопіса «Правінцыя» стала надзённай неабходнасцю.

Аляксандр Максімюк у працяг закранутай тэмы патлумачыў канцэпцыю свайго «папяровага дзіцяці» і выказаў спадзяванне, што надалей часопіс знойдзе свой шлях да чытача і стане рэгулярным квартальнікам. Бо ёсць і жаданне, і аўтарскі патэнцыял як на Беласточчыне, так і на Беларусі. Нездарма ён у прадмове да часопіса выказаўся: «Паміж намі і нашымі аднадумцамі ў Беларусі заўжды быў працягнуты дрот - раз быў ён калючы, іншым разам больш гладкі, як электрапастух. Аднак ніякі рэжым і ніякі лібэралізм гэтых агароджаў ня зьнёс. Нават не памкнуўся зьнесці. Пераадолеў іх толькі дух і тэхнічныя прылады новай эпохі. Невыпадкова на старонках часопісу называюцца месцы фізічнага жыхарства аўтараў і рэдактараў. Яны расьцярушаныя па адасобленых беларускіх выспах, але ў той жа час - усе падключаныя ў адзін сэрвэр беларускай літаратуры ці, шырэй, культуры».

Празаік Сяргей Астравец па старой журналісцкай завядзёнцы больш задаваў пытанні рэдактару «Правінцыі», чым дзяліўся асабістымі ўражаннямі адносна часопіса. Не абыйшлося і без паэзіі. Свае вершы чыталі Анатоль Брусевіч, Эдзік Мазько і вядучы імпрэзы - Юры Гумянюк.

Падобна на тое, што са з'яўленнем новага літаратурна-мастацкага часопіса «Правінцыя» адвечная апазіцыя «сталіца-правінцыя» пачала ўспрымацца не толькі як чыста геапалітычная катэгорыя. Сёння ўжо можна разважаць і пра эстэтычны ракурс праблемы, асабліва пасля прэзэнтацыі беластоцкага выдання ў Полацку і Гародні. А вось афіцыйны Менск досыць насцярожана адрэагаваў на выхад «забугорнага» і бесцэнзурнага часопіса. Прынамсі, кіраўніцтва галоўнай рэспубліканскай бібліятэкі - Скарынаўскай - палічыла «нямэтазгодным» правядзенне прэзентацыі «Правінцыі» ў сваім памяшканні. Каб не было праблемаў з вышэйшым начальствам ад культуры. Зрэшты, «Правінцыя» запрэзентуецца ў Менску ўжо ў траўні, разам з «Калосьсем» №9, пра што ПАГОНЯ паведаміць дадаткова.

**Адам Налібоцкі**

